№ 167 (289)

Аўторак, 23 верасня 1997 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 6.42 | 19.04 |
| Магілёў | 6.41 | 19.03 |
| Гомель | 6.39 | 19.00 |
| Мінск | 6.52 | 19.13 |
| Гродна | 7.06 | 19.30 |
| Брэст | 7.09 | 19.30 |



## Ніл ГІЛЕВІЧ

# Новыя вершы

### У добры шлях, студэнты!

*У добры шлях, студэнты!*
*Кіруйце ў бурнай плыні*
*Да той жаданай дэльты,*
*Дзе Беларусь вас прыме,*

*Дзе ўпэўнена і годна*
*Уступіце вы ў права*
*Вяршыць свой лёс свабодна,*
*Надзейна і яскрава.*

*Але каб гэтак стала —*
*Вам сімвалам Радзімы*
*Павінен быць Купала,*
*А не хамло ў мундзіры.*

*А каб не ўпалі ў кволасць —*
*Мацуйце дух вучэннем,*
*Што завяшчаў вам Колас,*
*А не халуй нікчэмны.*

*Да ўсіх сваіх іспытаў*
*Вучыце той падручнік,*
*Што склаў пісьменнік Быкаў,*
*А не жабрак-анучнік.*

*Штудзіруйце нястомна*
*У шчырым коле брацкім,*
*Што піша доктар Конан,*
*А не членкор у штацкім.*

*Ну, а пасля — праз доўгі*
*Свой век, праз церні драмы,*
*Праз прымхі і праз догмы —*
*Трымайце шлях абраны!*

*Да смерці на фарпостах*
*Служыце праўдзе-веры, —*
*І вам святы апостал*
*У рай адчыніць дзверы.*

1997, верасень.

### Перспектыва

*Як жывём і выжываем? Крадзем!*
*Цягнем так, што аж займае дух!*
*Тут даўно мы ўжо, калі папраўдзе,*
*Разгарнулі ўсенародны рух.*
*Многія, аднак жа, як ні дзіва,*
*Ні рубля не крадучы, жывуць.*
*Так што ёсць у нас і перспектыва:*
*Трэба ў рух і гэтых уцягнуць.*

*Чым і як душу харчуем? Хлусім!*
*Хлусім — скрозь, бязбожна і штодня.*
*З краю ў край па ўсёй па Беларусі*
*Несусветная ідзе хлусня.*
*Праўда, шмат яшчэ і недарэкаў,*
*Што не ўмеюць ёй душу лячыць.*
*Перспектыва ў тым, каб і няўмекаў*
*Да хлусні татальнай далучыць.*

*Што ж у выніку? Цынізму пошасць.*
*Яд знявер'я. Запраданства блуд.*
*Адзічэласць. Прымітыў і пошласць.*
*Бруд паклёпаў. Віжавання бруд.*
*А ў садок, пабраўшыся за ручкі,*
*Чысты-чысты тэпае народ.*
*Так што ёсць пад небам беларускім*
*Перспектыва. Дзейнічай, звырод!*

1997, верасень.

### Наконт камянёў

*Галодных вёсак хлопчыкі рахітныя,*
*"У людзі" выбіўшыся з галыцьбы,*
*Сядзяць у крэслах, сытыя і хітрыя,*
*І заклікаюць жыць без барацьбы.*

*Дзяржаўнікі, палітыкі, асветнікі,*
*Хаваючы ў трох валасінах плеш,*
*Тых вёсак скарбы кінулі на сметнікі,*
*А мову матчынай душы — найперш.*

*З-за аднаго цяпер яны нервуюцца:*
*Не могуць рады ўнукам родным даць.*
*Крычаць: "Пакіньце мітынгі на вуліцах!"*
*Крычаць: "Пара ўжо камяні збіраць!"*

*А для чаго збіраць? Каб зняць пульсацыю*
*Злабы ў крыві? Каб быў спакой і лад?*
*Ці для таго, каб вокны біць "пісацілю",*
*Як у Гародні — шмат гадоў назад?*

1997, верасень.

### Зноў, як калісь...

*Зноў, як калісь, прыхадні-апрычнікі,*
*Заадно з манкуртамі слухмянымі,*
*Узяліся спосабамі звычнымі*
*Нас хаўрусіць з "чыстымі славянамі".*
*Ну, а тых усіх, каго ў хаўрусіны*
*Не загоніш нават і сабакамі,*
*Каб не чуліся тут беларусамі —*
*Робяць, з помачу ксяндзоў, палякамі.*

*Сэрца, што ад Брэста па Дуброўна,*
*Хочуць напалам рассеч бяскроўна.*

1997, верасень.

### Братам-праўдалюбам

*Дзе вы, пакутнікі з-пад зор крамлёўскіх,*
*Гукаўшыя: "Трымайся, брат наш Ніл!"?*
*Што стала з вамі? Дзе той кліч сяброўскі?*
*Дзе звяў і ўсох братэрства дзівасіл?*

*О, як вы пелі нашай дружбе оду,*
*Пакуль загнаныя ў ярмо браты*
*Не прад'явілі права на свабоду,*
*Не захацелі выйсці з нематы!*

*А прад'явілі — вас як падмянілі,*
*А захацелі — вас і не пазнаць.*
*Як два вякі таму — загаманілі,*
*Каб і пытанне назаўсёды зняць.*

*Няма народа — і няма праблемы.*
*Ну што ж. Падобнае ўжо чулі мы.*
*І мы, і вы. Але, відаць, не ўсе мы*
*Дайшлі да праўды ў нетрах Калымы.*

1997, верасень.

### Дажынкі

*У Мастах святкавалі дажынкі.*
*Двое сутак свяціўся экран.*
*І пагода — ніводнай дажджынкі.*
*І рэклама — на ўвесь небакрай.*
*І ніводзін не здрэйфіў прамоўца —*
*Каб які табе дзе перакос!*
*І ніводнага роднага слоўца!*
*Каб не гэны сівы Белакоз...*

1997, верасень.

## 58 дней в неволе

## Мы ждем тебя, Павел!

# Яшчэ ніводная ўлада не выйграла вайну супраць журналістаў,

## альбо Што паказаў збор подпісаў за вызваленне Паўла Шарамета

Якіх толькі сабак не вешалі афіцыйныя ўлады на Паўла Шарамета: маўляў, мэтанакіравана ачарняў нашу светлую рэчаіснасць, нахабна парушыў беларуска-літоўскую мяжу і — нават страшна вымавіць! — падазраецца ў замаху на жыццё ўсенародна абранага... Але разам з тым менавіта яны, улады, узнеслі сціплага карэспандэнта ГРТ у чацвёрку самых папулярных палітычных асобаў краіны.

Рэакцыя на арышт Шарамета, безумоўна, была рознай. Журналісты ладзілі акцыі пратэсту, незалежныя газеты выказваліся ў падтрымку карэспандэнта. А хтосьці, утапіўшыся ў роднае БТ, пляскаў у ладкі: маўляў, як спрытна "раскусілі" органы прадажнага журналіста-дыверсанта!

"Малады фронт" адразу ж пачаў збор подпісаў за вызваленне Паўла. У больш-менш буйных гарадах іх было сабрана па некалькі соцень, а ў Мінску лік пайшоў на тысячы. Як зазначаюць франтаўцы, асноўную частку тых, хто далучыў свой голас да патрабавання выпусціць Шарамета з-за кратаў, складае менавіта моладзь. Падчас акцыі журналістаў, што адбылася 30 жніўня, сабраныя лісты былі перададзены маці Шарамета. Між тым кампанія працягваецца. Колькасць подпісаў дасягнула ўжо дзесяці тысячаў. І гэта ва ўмовах, калі не кожны рызыкне публічна засведчыць свае сімпатыі да апальнага журналіста!

Тым больш каштоўнае кожнае такое сведчанне. Мы зноў бачым, што на Беларусі нямала людзей, найперш маладых, якім стае грамадзянскай мужнасці ды сумлення.

Шкада, што апошняе, мяркуючы па ўсім, у вялікім дэфіцыце сярод тых, хто зрабіў Паўла Шарамета заложнікам палітычнай гульні. Але ў такім разе варта хаця б улічваць гістарычны вопыт: ніводнай уладзе не пашанцавала яшчэ выйграць вайну супраць прэсы. Часовыя перамогі — кагосьці схапілі, нейкае выданне прычынілі — у выніку заўжды станавіліся піравымі.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

Острая тема

*Главному редактору газеты "Народная воля" И.П.Середичу*

*14 мая 1997 года в Палате представителей Национального собрания Республики Беларусь проведены слушания по вопросу "Пути решения энергетической проблемы в Республике Беларусь" и 28.05.1997 г. принято соответствующее Постановление (№174-П/11), пункт 3-й которого обязывает Комиссию по образованию, культуре, науке и научно-техническому прогрессу материалы слушаний обобщить и опубликовать в республиканской печати.*

*Направляю и прошу опубликовать статью "Строить в Беларуси АЭС? Ни в коем случае!".*

*Публикация предложенной статьи целесообразна потому, что рассматриваемые в ней вопросы затрагивают интересы всех граждан Республики Беларусь (уровень их жизни, здоровье, будущее).*

*С уважением —*

**Руслан ИГНАТИЩЕВ, председатель подкомиссии по науке и научно-техническому прогрессу Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, профессор, доктор технических наук.**

# Строить в Беларуси АЭС? Ни в коем случае!

Имеется реальная опасность, что обманутый атомными лоббистами белорусский народ по собственному согласию, с энтузиазмом и восклицаниями "ура" может быть втянут (как это неоднократно бывало в нашей истории) в очередную крайне невыгодную великостройку.

**1. Факты, сигнализирующие об имеющихся планах на строительство АЭС в Республике Беларусь и наличии крупных сил по их реализации.**

Заботясь об улучшении экономического положения в Республике Беларусь, Палата представителей 14 мая 1997 г. провела слушания по теме "Пути решения энергетической проблемы в Республике Беларусь".

На этих парламентских слушаниях министр топлива и энергетики (в момент их проведения такое министерство существовало) В.В.Герасимов сообщил: "альтернативы развитию ядерной энергетике нет"; "в соответствии *с постановлением старого Совета министров* проводятся проектно-изыскательные работы на территории республики для выбора районов размещения атомных электростанций..."; под АЭС... выбраны площадки "Быховская, Шкловская и Дубровинская".

На вопрос депутата А.Е.Волкова о затратах на изыскание площадок под строительство АЭС В.В.Герасимов (ныне президент концерна "Белтопэнерго") ответил: "годичные затраты по смете примерно *составляют* один миллиард рублей".

Кто обосновывал и обосновывает (В.В.Герасимову, коллегиям соответствующих ведомств, "старому Совету министров") целесообразность развития в Республике Беларусь ядерной энергетики?

Парламентские слушания показали: главным обоснователем целесообразности строительства АЭС в Республике Беларусь является член-корреспондент Национальной Академии наук Беларуси (сокращенно НАНБ) А.А.Михалевич совместно с возглавляемым им Институтом проблем энергетики НАНБ. На парламентских слушаниях относительно предполагаемой к строительству АЭС им сообщено: "характеристики оптимального варианта для условий Беларуси — четыре блока по 600 тысяч киловатт или два блока по одному миллиону 200 тысяч киловатт".

**2. Строительство АЭС в ближайшем будущем в Республике Беларусь невыгодно: и экономически, и экологически, и с позиций государственной независимости.**

Отметим основные негативные моменты, связанные с возможным строительством АЭС в Республике Беларусь в ближайшем будущем.

1. В следующем подразделе будет показана значимость рассматриваемой АЭС в решении энергетической проблемы Республики Беларусь. Эта значимость мизерная — определяется величиной, не превышающей 4,5%.

2. Не опровергнут на слушаниях такой недостаток АЭС, как долгое-предолгое ее строительство. По данным оптимистов: если строительство АЭС начать сейчас, то "временем пуска первого блока АЭС является период 2005—2007 годов", остальные блоки будут пущены в работу к 2012 году.

3. На строительство АЭС будет затрачено: по оценкам обоснователей "целесообразности" такого строительства — 4—5 млрд. долларов США; по оценкам оппонентов (не меньших специалистов) — 7—9 млрд. тех же долларов.

К сведению: государственный бюджет Республики Беларусь в 1997 году — 1,5 млрд. долларов, т.е. *только строительство АЭС* (без учета ее захоронения, эксплуатационных расходов, без учета инфраструктуры ядерной энергетики) требует затрат в количестве 3—6 государственных бюджетов.

На вопрос "Где взять на строительство АЭС такие огромные деньги?" депутатский корпус на слушаниях вразумительного ответа не получил.

Когда А.А.Михалевич говорил депутатам, что "нужно брать кредит", то у них возникал контрвопрос: "А что, его не надо будет возвращать?". Надо будет возвращать, и с процентами не в нашу пользу.

Чтобы эти суммы воспринимались более приземленно, вспомним июльские (текущего года) события, связанные с нашим долгом РАО "Газпром" за потребляемый природный газ: и заседания правительства с созданием специальной республиканской комиссии, и работа этой комиссии, и вылет "на ковер" в Москву специальной делегации во главе с вице-премьером. А речь-то велась всего о 119,9 миллиона долларов долга.

Если не учитывать годовые проценты на кредит (а это 6—10% в год) и согласиться с числами, названными обоснователями "целесообразности" строительства АЭС в Республике Беларусь (а не их оппонентами), то получается, что белорусскому народу придется как минимум десяток лет (через который будет получен лишь первый киловатт-час) отрывать от себя ежегодно в 4 раза большие суммы, чем упомянутые 119,9 миллиона долларов.

4. *На захоронение отработанной АЭС потребуются не меньшие средства, чем на ее строительство.* В частности, по сообщениям газет, правительство Украины сейчас просит у мирового сообщества помощи (в сумме 4,5 млрд. долларов!) для захоронения ЧАЭС.

5. Конструкции тепловыделяющих сборок у различных ядерных держав различны. Поэтому если своей ядерно-энергетической инфраструктуры нет, то вопрос о государственной независимости остается лишь несбыточным пожеланием — придется в течение всего срока службы АЭС покупать тепловыделяющие элементы у одной и той же страны (но для этого Беларуси придется все эти 30 лет "хорошо" вести себя — "хорошо" с позиций высшего руководства страны — поставщика ядерного топлива).

6. **150**-миллионная Россия, которой от СССР досталась вся инфраструктура ядерной энергетики, не может решить вопрос с захоронением даже *своих* ядерных отходов (см. "Известия" за 6.05.1997 г.); у них перерабатывается только 30% отработанных тепловыделяющих сборок. Причем российский и украинский законы практически запрещают ввозить на их территории радиоактивные отходы из других стран.

Создавать "с нуля" ядерно-энергетическую инфраструктуру всего 10-миллионному государству — это сверхсложная задача. Пока же на топливо, выгруженное из *мини*-реактора АЭС "Памир", мы *безвозвратно* уже около десятка лет ежегодно тратим (посёлок Сосны под Минском) огромные суммы денег.

7. Авторы, составлявшие подраздел "Атомная энергетика" в таком документе, как "Основные направления энергетической политики...", с вдохновением написали (в 1996 году — в десятилетний "юбилей" чернобыльской катастрофы): *"АЭС... наиболее экологически чистые".*

**(Окончание на 2-й стр.)**

Знаёмцеся!

# Дэніэл Спекхард заклікае ўстрымацца ад вяртання ў мінулае і ісці правільным дэмакратычным шляхам

## Адбылася першая афіцыйная прэс-канферэнцыя новага пасла ЗША ў Беларусі Дэніэла Спекхарда

Яна сабрала шмат журналістаў. Зала інфармацыйнай службы пасольства была запоўнена. Вядома, многіх цікавіць, як самая ўплывовая краіна ў свеце ацэньвае працэсы, што ідуць у Беларусі, і як яна збіраецца паўплываць на іх.

Пасол прыехаў на сустрэчу з журналістамі адразу пасля ўручэння даверчай граматы прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку, і таму хацелася даведацца, аб чым яны гутарылі.

Але найперш некалькі слоў пра новага пасла ЗША. Яму 38 гадоў. Мае дзве дачкі (12 і 9 гадоў), сына (5 гадоў). Займаўся праблемамі малога бізнесу, працаваў у Агенцтве ЗША па міжнароднаму развіццю, саветнікам намесніка Дзяржаўнага сакратара краіны. З 1993 года ён з'яўляўся намеснікам пасла ЗША па асобых даручэннях у новых незалежных дзяржавах, ці СНД па-нашаму. Так што ён някепска інфармаваны аб працэсах, якія ідуць на прасторах СНД.

Яшчэ да прыезду ў Мінск журналістам былі вядомы выказванні спадара Спекхарда, іншых дзеячаў ЗША па сітуацыі ў Беларусі. На жаль, афіцыйны друк не паведамляў аб гэтым. Таму варта коратка нагадаць пра іх.

Выступаючы на слуханнях у сенаце 29 ліпеня, прысвечаным зацвярджэнню яго на пасаду пасла, спадар Спекхард адзначыў, што Беларусь узяла шматабяцальны старт пасля атрымання незалежнасці. Яна першая з краін СНД падпісала дамову аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, адмовілася ад размяшчэння на сваёй тэрыторыі яго ды зрабіла значныя крокі на шляху дэмакратызацыі. "Але за апошнія тры гады мы назіраем прыкметны адыход ад гэтай палітыкі".

Па словах Спекхарда, ён будзе "заклікаць Беларусь змяніць сваю цяперашнюю палітыку і далучыцца да еўрапейскай супольнасці дэмакратычных дзяржаў". Адказваючы на пытанні сенатараў, Спекхард зазначыў, што прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка "іграе на шырока бытуючай думцы аб тым, што да распаду СССР было лепей". Пры гэтым ён дадаў: "Я думаю, што існуе рэальная пагроза ператварэння Беларусі ў краіну з дыктатарскім рэжымам". А таму адміністрацыя Клінтана даводзіць сваю заклапочанасць да ведама беларускага народа і "спрабуе растлумачыць беларускім уладам палітычную цану міжнароднай ізаляцыі і эканамічную цану праводзімай імі палітыкі". На думку Спекхарда, рэарганізацыя Канстытуцыйнага суда дазволіла ўладам пазбавіцца "рэальнага сродку стрымлівання самавольства выканаўчай улады".

*Надзвычайны і Паўнамоцны пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэніэл Спекхард (злева) уручае даверчыя граматы кіраўніку дзяржавы Аляксандру Лукашэнку.*

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

Разам з тым ён адзначыў, што будзе падтрымліваць намаганні ЗША па аказанню дапамогі ў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі. "Мы павінны патлумачыць насельніцтву Беларусі, што напружанасць у адносінах паміж нашымі ўрадамі не распаўсюджваецца на народ Беларусі, што мы маем цёплыя пачуцці да грамадзян і хочам аблегчыць іх цяжкасці".

У час прыняцця прысягі пасла ЗША, якое адбылося 28 жніўня, Спекхард заўважыў, што Злучаныя Штаты Амерыкі "занепакоены лёсам дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі". "Між тым я ўскладаю вялікія надзеі на Беларусь, — падкрэсліў ён пры гэтым. — Яна знаходзіцца ў выдатным месцы ў Еўропе, валодае таленавітай і вопытнай рабочай сілай... Я заклікаю яе ўстрымацца ад вяртання ў мінулае. Такая дарога вядзе ў нікуды".

Прыкладна такія думкі выказвалі і многія дзеячы ЗША.

Дык аб чым жа гутарылі пасол ЗША і прэзідэнт Беларусі ў час сваёй першай сустрэчы? Ці ўдалося паслу Амерыкі пераканаць Лукашэнку вярнуцца на правільны шлях?

Спадар Спекхард дыпламатычна пазбег прамых адказаў на падобныя пытанні, спаслаўшыся на тое, што яго кароткая гутарка з Лукашэнкам насіла канфідэнцыяльны характар. Сказаў толькі, што запэўніў прэзідэнта Лукашэнку ў тым, што ЗША хочуць бачыць Беларусь квітнеючай і незалежнай дзяржавай, інтэграванай у Еўропу. Выказаў таксама занепакоенасць сваёй краіны развіццём дэмакратыі ў Беларусі.

Затое пасол ахвотна адказваў на пытанні журналістаў. Ён падкрэсліў, што наш урад, на яго думку, павінен перагледзець сваю палітыку і паважаць свабоду друку, бо незалежны друк — аснова дэмакратычнага развіцця. Спекхард выказаў занепакоенасць тым, што Беларусь вымушаны быў пакінуць Фонд Сораса, які, на яго думку, падтрымліваў тут пабудову дэмакратычнага грамадства.

Пасол ЗША таксама зазначыў, што ЗША не прызнаюць Нацыянальны сход Беларусі, бо ён нелегітымны, і не будуць мець з ім ніякай справы. Сваю работу пасол будзе ажыццяўляць з выканаўчай галіной улады. Ён мае намер весці дыялог з урадам і пераконваць яго ісці дэмакратычным правільным шляхам.

З яго слоў стала зразумела, што пакуль не варта чакаць значных інвестыцый з ЗША ў эканоміку Беларусі. Амерыканцы гатовы падтрымліваць той капітал, які ўжо прыйшоў на наш рынак. А вось раіць другім інвестарам ісці сюды пакуль не збіраюцца. Такое можа быць толькі пасля змен у мытных патрабаваннях, заканадаўстве, прывядзення ў адпаведнасць з рэчаіснасцю абменнага курсу беларускага рубля.

Пасол не збіраецца заседжвацца ў Мінску, а плануе наведаць нашыя гарады і вёскі, каб глыбей пазнаёміцца з краінай і людзьмі, якія яму вельмі падабаюцца.

**Алесь ДРАБЧУК.**

Здарэнне

## Беларускае міністэрства запатрабавала растлумачэнняў у шведскага боку

Паведамленне са Стакгольма аб лёсе шасцігадовай беларускай дзяўчынкі, якая падвергласа насіллю ў шведскай сям'і, усхвалявала Міністэрства адукацыі Беларусі. У сувязі з гэтым прэс-цэнтр міністэрства выступіў з заявай, у якой падкрэсліваецца, што падпісанне адпаведных дакументаў адбывалася ў адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі, якое прадугледжвае наяўнасць абавязковага кантролю з боку дзяржаўных органаў прымаючага боку, у дадзеным выпадку Швецыі.

У Швецыі, гаворыцца ў заяве, усынаўленне або ўдачарэнне дзяцей — грамадзян іншых краін — знаходзіцца пад кантролем дзяржаўнага камітэта па міжнародных пытаннях усынаўлення і ўдачарэння, які ўзначальвае намеснік спікера парламента Крыстэр Эйрэсфельт. Гэты камітэт даў гарантыі кантролю за ўмовамі жыцця і выхавання дзяцей — грамадзян Беларусі, якіх усынавілі або ўдачарылі грамадзяне Швецыі, і даручыў цэнтру ўсынаўлення ажыццяўляць гэты кантроль, двойчы ў год накіроўваючы адпаведную інфармацыю Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь. Па патрабаванню беларускага Міністэрства адукацыі для беларускіх дзяцей прадугледжаны і дадатковыя гарантыі кантролю з боку адпаведных мясцовых сацыяльных органаў зноў жа з прадастаўленнем адпаведнай інфармацыі ў наша міністэрства.

Паводле даных, атрыманых у міністэрстве ад шведскага цэнтра ўсынаўлення, сацыяльная служба кантралявала працэс адаптацыі дзіцяці ў сям'і. Пасля заявы суседа, што там не ўсё добра, гэта служба забрала дзіця і аддала часова ў прыёмную сям'ю. Дзяўчынку штодзённа наведвае псіхолаг, які размаўляе па-руску.

Паколькі працэс удачарэння не быў завершаны, а дзяўчынка знаходзілася ў сям'і на адаптацыі, міністэрства запатрабавала растлумачэнняў са Швецыі і патрабуе вяртання дзіцяці на радзіму. Разгляд просьбаў шведскіх грамадзян аб усынаўленні або ўдачарэнні беларускіх дзяцей будзе прыпынены.

**БелТА.**

Ситуация

## Гарри Погоняйло может остаться без лицензии на адвокатскую деятельность

Недавно небезызвестному адвокату республики Гарри Погоняйло президиум Минской городской коллегии адвокатов вынес второй строгий выговор. На этот раз поводом для наказания послужил отказ Погоняйло дать подписку о сохранении тайны следствия по делу Павла Шеремета.

Сам Гарри Петрович считает, что решение, согласно которому от него требуют данную подписку, не имеет юридической силы, поскольку было принято пленумом Верховного суда, а не Верховным Советом. Однако его коллеги посчитали иначе.

Кстати, первое дисциплинарное взыскание — решение коллегии о вынесении выговора за то, что он в своих интервью разглашал данные предварительного следствия по делу Тамары Винниковой, Гарри Петрович обжаловал в суде Центрального района, и рассмотрение дела было отложено ввиду того, что прокуратура республики не предоставила материалов проверки по факту разглашения этих данных.

Однако два строгих выговора за столь короткий отрезок времени дают основания полагать, что власти всерьез решили "взяться" за Гарри Погоняйло. Согласно президентскому декрету "О некоторых мерах по усовершенствованию адвокатской деятельности", министерство юстиции имеет право лишать лицензии не только тех адвокатов, которые отказались стать членами коллегии адвокатов (случай с Надеждой Дударевой), но и тех, которые получили несколько строгих дисциплинарных взысканий на протяжении года.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

Уцечка

## Чорныя "нафтавыя рэкі" крышачку падсохлі

Супрацоўнікамі Мазырскага аддзела Камітэта па арганізаванай злачыннасці затрымана група, якая займалася крадзяжом нафтапрадуктаў.

Мазырскія аператыўнікі адсліжвалі злачынцаў на працягу трох месяцаў. І затрымалі на месцы крадзяжу 16 тон дызельнага паліва на 42-м участку каля вёскі Бібікі Мазырскага раёна. Хлопцы аказаліся прафесіяналамі сваёй справы: выкарыстоўваючы тэхналогію ўрэзкі ў нафтапровад, яны выкапвалі калодзеж, які старанна маскіравалі.

**Хрысціна ДВАРЭЦКАЯ.**

"Балгарскае" пытанне?

## Энцыклапедыя дысідэнтаў

*Нядаўна ў замежных мас-медыа прайшла інфармацыя пра тое, што ў Балгарыі са змешанымі пачуццямі прынялі факт, што толькі 20 прозвішчаў былых тутэйшых антыкамуністаў знаходзіцца ў энцыклапедыі дысідэнтаў, якая хутка павінна выйсці ў амерыканскім Інстытуце дэмакратыі.*

Паводле балгарскага выдання "24 часа", у энцыклапедыю мусяць увайсці 1200 прозвішчаў. Сярод іх — 210 прозвішчаў расіян, 150 палякаў, 110 украінцаў, 100 чэхаў і славакаў, 90 венграў.

Кіраўнік балгарскага Цэнтра даследаванняў антыкамуністычнай дзейнасці Міхаіл Нядзелчэў пераканаы, што выдаўцоў энцыклапедыі ўдасца пераканаць у павелічэнні балгарскага ліміту да 30 асоб. Аднак існуе думка, што 20 прозвішчаў для Балгарыі і так задужа. Бо, паводле некаторых звестак, большасць працiўнікаў камуністычнага рэжыму ў Балгарыі былі агентамі службы бяспекі. На жаль, у энцыклапедыі інфармацыя пра беларускія ахвяры камунізму пакуль адсутнічае.

**Уладзімір МАШНІЦКІ.**

# Эх, дороги! Высокоскоростные

По инициативе правительства Республики Беларусь с 28 по 31 октября в Минске пройдет Международная конференция по развитию коммуникационной системы Берлин—Варшава—Минск—Москва. В конференции примут участие представители правительств и международных организаций региональных и местных органов управления, специалисты различных компаний и частные лица из Беларуси, Германии, Нидерландов, Польши, России, Казахстана, Китая, Франции и других государств. Среди вынесенных на обсуждение вопросов особый интерес, безусловно, вызывают проблемы, связанные с положением Беларуси в системе трансевропейских коммуникаций.

В настоящее время с привлечением кредитов Европейского банка реконструкции и развития с целью дальнейшего развития всех составляющих коммуникационного коридора осуществляется поэтапная реконструкция автострады Брест—Москва. А также завершено строительство международной оптовоколонной линии связи от Орши до Берлина и начато строительство новой нитки трансконтинентального газопровода из России в Польшу и Германию. Регион располагает несколькими аэропортами, способными принимать любые типы современных самолетов. Железнодорожная линия Брест—Минск—Москва реконструируется для обеспечения скорости движения поездов до 160 км/час.

На европейском уровне продекларированы планы строительства новой, высокоскоростной, железнодорожной магистрали Берлин—Минск—Москва, которая должна стать составной частью общеевропейской сети высокоскоростных магистралей со скоростью движения поездов до 250—350 км/час.

**Елена СЫС.**

